№ 80(662)

Пятніца, 7 мая 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас






Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"

# СВОБОДУ

## Михаилу ЧИГИРЮ



за решеткой с марта 1999г.

## Андрею КЛИМОВУ



за решеткой с февраля 1998г.

## Владимиру КУДИНОВУ



за решеткой с 1997г.

**Суд**

## Депутат Валерий Щукин получил очередные пять суток

Безусловный рекордсмен по количеству отсидок, депутат Верховного Совета 13-го созыва Валерий Щукин на днях должен будет снова отправиться в следственный изолятор по улице Окрестина в уже хорошо знакомую ему камеру под номером 13. На днях суд Советского района столицы постановил лишить свободы известного правозащитника сроком на пять суток (к слову, в общей сложности подобных суток у него теперь станет 53). Провинился же Щукин, по мнению властей, в том, что, участвуя в антиядерном митинге 2 апреля, посмел выражать недовольство намерением режима А.Лукашенко вернуть в Беларусь ядерное оружие.

Правда, сразу после суда В.Щукин получил отсрочку и был отпущен на свободу до 10 мая. Судья Инна Шейко проявила к бывшему моряку, капитану второго ранга, благосклонность, удовлетворив его ходатайство о переносе исполнения судебного решения на следующий день после праздника Дня Победы.

**Дмитрий ЕРМАК.**

## У сотрудника избирательного штаба Михаила Чигиря изъяли предвыборные листовки

У Владимира Бородача — сотрудника избирательного штаба кандидата в президенты Республики Беларусь Михаила Чигиря — 5 мая были изъяты листовки, призывающие граждан Беларуси участвовать в президентских выборах, назначенных Верховным Советом 13-го созыва.

По словам самого Бородача, бывшего командира спецназа в Афганистане, в этот день с самого утра за его машиной велась слежка. Еще когда он подвозил к штабу Юлию Чигирь, обратил внимание, что его машине сели на хвост. Сотрудник ГАИ, который вскоре остановил автомобиль Бородача, объяснил свои действия тем, что он хочет посмотреть на содержимое багажника. В багажнике, как тут же выяснилось, находились листовки в поддержку проведения президентских выборов в мае 1999 года.

Обнаружив их, сотрудник ГАИ тут же призвал на помощь каких-то лиц в гражданской одежде. Один из них предъявил служебное удостоверение на имя сотрудника КГБ Республики Беларусь Владимира Короля. Он же, поговорив с кем-то по радиотелефону, приказал ехать в Центральный РОВД. Здесь, по рассказам Бородача, его уже ожидали какие-то люди в штатском. Один из них заснял весь допрос задержанного на видеокамеру.

После составления протокола изъятия листовок Владимир Бородач был отпущен. Как он сказал, допрашивавших его лиц особенно интересовало происхождение печатной продукции.

**Владимир ГЛОД.**

## Анекдот дня

Идет дискуссия в миссии ОБСЕ между представителями оппозиции и официальных властей.

Представитель оппозиции:

— В Беларуси — диктатура. Десятки тысяч людей незаконно избиваются милицией. Даже глухонемых избивают якобы за выкрикивание антиправительственных лозунгов.

Представитель властей:

— Позвольте! Но Вы забываете о том, что у нас сотни тысяч людей совершенно не избиты. Даже не избиты многие из неглухонемых, которые, правда, молчат.



Пр. Елізаветы, Аляксея, Валянціна, Лявонція, Савы, Фамы, Яўсевія.
К. Людмілы, Бенядзікта, Людаміра.

ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ РАДЫЁ, ТЭЛЕБАЧАННЯ І СУВЯЗІ

80 гадоў з дня нараджэння Г.М.Шчарбатава (1919—1957), беларускага пісьменніка.

МАЙ
**7**
'99 ПЯТНІЦА

| ☉ | ☾ |
|---|---|
| Усход 5.22 | Апошн. квадра 8 мая |
| Захад 20.52 | Усход 3.02 |
| Даўж. дня 15.30 | Захад 11.31 |

## Зварот да выбаршчыкаў Беларусі

Паважаныя суайчыннікі!

20 ліпеня 1999 года заканчваецца тэрмін прэзідэнцтва А.Лукашэнкі. У сувязі з гэтым 10 студзеня 1999 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прызначыў чарговыя выбары прэзідэнта на 16 мая 1999 года, як таго патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. За гэты час, нягледзячы на ціск і масавыя рэпрэсіі з боку выканаўчай улады ў адносінах да членаў выбарчых камісій і ініцыятыўных груп па зборы подпісаў у падтрымку кандыдатаў у прэзідэнты Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра, зроблена ўсё для таго, каб выбары адбыліся ў прызначаны тэрмін.

Бачачы гэта і адчуваючы настрой народа выкарыстаць сваё канстытуцыйнае права і прыняць актыўны ўдзел у чарговых прэзідэнцкіх выбарах, створаны Лукашэнкам рэжым пайшоў на крайнія меры і арыштаваў аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты — М.Чыгіра і не забяспечвае другому — З.Пазьняку — бяспечны зварот у рэспубліку, разгарнуў сапраўдную барацьбу супраць уласнага народа, адбіраючы ў апошняга канстытуцыйнае права — кожныя пяць гадоў выбіраць кіраўніка сваёй дзяржавы.

Усё гэта тлумачыцца тым, што за прайшоўшыя пяць гадоў прэзідэнцтва Лукашэнка не выканаў ніводнага свайго абяцання. І больш таго — паставіў краіну ў міжнародную ізаляцыю, а народ давёў да галечы і беспрацоўя. Таму шанцаў на перамогу ў яго на новых прэзідэнцкіх выбарах няма ніякіх і ён робіць усё для таго, каб яны не адбыліся.

Улічваючы немагчымасць у гэткіх умовах арганізацыі галасавання ў спецыяльна адведзеных і абсталяваных для гэтага памяшканнях у назначаны дзень — 16 мая 1999 года, і для таго, каб забяспечыць грамадзянам рэспублікі іх канстытуцыйнае права на абранне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Цэнтральная выбарчая камісія прыняла пастанову — у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а менавіта:

Даць магчымасць выбаршчыкам прагаласаваць па месцы жыхарства — у сваіх кватэрах і хатах. А паколькі гэта немагчыма зрабіць у адзін дзень, то выбаршчыкам даецца магчымасць выкарыстаць сваё выбарчае права ў любы дзень (але не раней чым за 10 дзён да 16 мая 1999 года), што таксама не парушае Закон "Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".

Паважаныя выбаршчыкі! Памятайце, што толькі сам народ, як адзіны носьбіт улады, можа вызначыць выбар сённяшняга і будучага краіны, а ў адпаведнасці — і свой лёс. Удзел у выбарах прэзідэнта 16 мая 1999 года — гэта і ёсць ваш сапраўдны выбар.

**Прынята на пашыраным пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 4 мая 1999 года.**

г.Мінск.

**Позиция**

## Виктор Гончар и члены комиссий постараются обеспечить гражданам все возможности для волеизъявления при избрании президента

Приближается та дата, вокруг которой — много разговоров не только в Беларуси, но и далеко за ее пределами — дата президентских выборов, назначенных депутатами Верховного Совета 13-го созыва. 4 мая 1999 года на расширенном заседании Президиума Верховного Совета рассмотрены постановления Центральной комиссии по выборам президента Республики Беларусь. Все акты комиссии признаны соответствующими Конституции и Закону "О выборах Президента Республики Беларусь".

Председатель комиссии Виктор Гончар проинформировал о готовности избирательных комиссий обеспечить гражданам, предусмотренную законом (статья 32) возможность проголосовать в необходимых случаях досрочно. По таким же правилам, кстати, выбирали и первого президента Республики Беларусь.

Досрочное голосование возможно с 6 по 15 мая с.г. Информацию о месте голосования можно получить в территориальных избирательных комиссиях.

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, член рабочей группы по подготовке сессий парламента.**

**Я так думаю**

## Ніхто за нас саміх не зробіць жыццё лепшым

Добры дзень "Народная воля"!

Чытаю вашу газету з самага яе заснавання і лічу яе за нашу праўду. Толькі тут можна пачуць жывое слова пра жыццё, якое яно ёсць.

Прачытаў надрукаваны ліст Марыны Трысцень змешчаны ў трыццатым нумары газеты і поўнасцю пагаджаюся з ёю. Але вось што я хацеў бы дадаць яшчэ. Толькі думаць пра нашу родную мову, пра сваю Белаусь, — мала. Каб жыла наша краіна, патрэбна не сядзець склаўшы рукі ды плакацца на кухні на гаротнае жыццё. Мы павінны ратаваць сваю Бацькаўшчыну ад гібелі.

Да чаго ўлады давялі свой народ! Правільна Марына піша: нас, беларусаў, на сваёй жа зямлі не лічаць за людзей.

Ды хто ж нас будзе паважаць і за што? Мы, як гаворыць наш славуты прэзідэнт, самыя працавітыя і самыя талерантныя, рахманыя. Да таго рахманыя, што можам дазволіць пляваць сабе ў твар і пры гэтым лагодна ўсміхацца.

Ля станцыі метро "Плошча Перамогі" фашысты з расійскага РНА збілі беларускіх патрыётаў, а ўся дзяржаўная прэса зрабіла выгляд, што нічога не было... Ці, можа, жыхары сталіцы выйшлі на вуліцы і сказалі свае "Не" насіллю? Зноў не. Сядзяць у сваіх кватэрах і чакаюць ад кагосьці манны нябеснай.

На працягу некалькіх гадоў я з'яўляюся сябрам БНФ і разам з некалькімі аднадумцамі звяртаюся да землякоў: людзі, законнымі сродкамі змагайцеся за сваю долю, за будучыню сваіх дзяцей. Арганізоўвайце свае незалежныя прафсаюзы, уступайце ў грамадскія арганізацыі, удзельнічайце ў палітычным жыцці. Але многія баяцца падаць свой голас. Што ж гэта за грамадства будуецца, дзе людзі скаваныя страхам і не могуць адчуваць нават самапавагі?

Маўчаць настаўнікі, якія павінны на ўласным прыкладзе грамадзянскасці выхоўваць моладзь. Ды як і што можа сказаць наша "народная" інтэлігенцыя свайму народу, калі, акрамя "положенных" газет і часопісаў, іншага не адважваецца чытаць? Сумна і крыўдна за іх. Ну, не чытаюць яны "Народную волю", "Свободные новости", "Навіны", "Пагоню" і беларускую літаратуру апошніх гадоў. Але ж бачаць і чытаюць цэннікі ў магазінах. Бачаць, як жывуць іх блізкія і знаёмыя. Трэба ж якія вочы мець, каб гэтага ўсяго "не бачыць", і вушы, каб "не чуць", а толькі ўздыхаць па мінулым. Хаця што там добрага, у тым мінулым, было? Забыліся, як у тыя часы стаялі ў кіламетровых чэргах за каўбасой, даставалі ўсё па блату?

Дарагія мае суайчыннікі!

Прачніцеся і падумайце: ніхто за нас саміх не зробіць наша жыццё лепшым. Не чакайце з мора пагоды. Усё ў вашых руках. Чытайце, слухайце і падтрымлівайце справамі людзей, якія ведаюць, як і што трэба рабіць, каб нам жылося лепш. Паглядзіце на краіны нашага сумежжа — Польшчу, Літву, Украіну і Расію. Няўжо мы не здольныя зразумець, з каго нам трэба браць прыклад?

Калі мы не будзем займацца палітыкай, то палітыка зоймецца намі, аддаючы нас на холад, голад і нястачы.

**Мікалай ХАМІЦЭВІЧ, жыхар в.Доўгае Салігорскага раёна.**

## Барыс Хамайда – ганаровы сябра "Вясны-96"

На чарговым пасяджэнні Праваабарончага цэнтра "Вясна-96" у ганаровыя сябры прыняты Барыс Ханонавіч Хамайда. Уся палітычная дзейнасць яго звязана з абаронай правоў чалавека. Барыс Ханонавіч з 1990 года абіраўся старшынёй Віцебскага клуба выбаршчыкаў. З 1992 года Хамайда — галоўны рэдактар незалежнай газеты "Выбар". Абарона правоў беларусаў мець сваю нацыянальную культуру — галоўны змест апазіцыйнай газеты. Барацьба з карупцыянерамі, злачыннай савецкай уладай за права людзей жыць вольна і заможна, карыстацца вынікамі сваёй працы — галоўныя тэмы "Выбара" ў 1993—1994 гадах. У клубе "Выбар" Хамайда праводзіць семінар "Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёю" і на старонках газеты друкуе матэрыялы семінара і больш як год друкуе "Чорную кнігу злачынстваў савецкай улады на Віцебшчыне".

Менавіта за гэта ўлады пры Кебічы забаранілі "Выбар", а лукашэнкаўскія ўлады ўзбудзілі супраць Хамайды крымінальныя справы. Але Хамайда выпускае "Выбар" і па сённяшні дзень, бароначы права аўтараў на выказванне свайго меркавання і права грамадзян атрымліваць усебаковую інфармацыю.

Верш С.Адамовіча ператварыўся ў крымінальную справу, якая цягнулася амаль год. І Хамайда дамогся перамогі ў судзе. Зараз Хамайда абвінавачваецца за прыніжэнне гонару і годнасці А.Лукашэнкі за друкаванне кнігі Ул.Падгола "Куля для прэзідэнта".

Абарона незалежнага друку — сэнс і змест публічнай дзейнасці Хамайды ў апошнія гады. Яго амаль кожны дзень можна ўбачыць у цэнтры Віцебска ў пікеце з плакатам "Незалежная прэсса". Тут у Хамайды грамадзяне Віцебска могуць набыць такія незалежныя газеты, як "Народная воля", "Свободные новости", "Навіны", "Имя" і іншыя. Менавіта за абарону права чытачоў атрымліваць інфармацыю Хамайду больш як сто разоў арыштоўвалі, адводзілі ў пастарунак і судзілі. Барыса Ханонавіча асудзілі на выплату 150 млн. рублёў, прымусілі адсядзець у турме 53 дні.

**Прэс-служба Праваабарончага цэнтра "Вясна-96"**

## Абарона актывістаў выбарчай кампаніі ад магчымых рэпрэсій – перш за ўсё ў масавым удзеле выбаршчыкаў

Абарона актывістаў кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі, якія прызначаны Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання на 16 мая г.г., ад магчымых рэпрэсій улад — перш за ўсё ў масавым удзеле выбаршчыкаў.

Пра гэта заявіў у інтэрв'ю незалежнай газеце "Навіны" ад 5 мая г.г. старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі Віктар Ганчар. На думку кіраўніка Цэнтркама, пакараць чымсьці членаў выбарчых камісій немагчыма "нават з пункту гледжання прыдуманага рэжымам "заканадаўства". Апрача таго, В.Ганчар выказаў спадзяванне, што рэалізуюцца шматлікія дамоўленасці адносна прысутнасці на выбарах назіральнікаў, якія будуць прадстаўляць міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, палітычныя партыі і парламенты іншых дзяржаў.

Аднначасова Віктар Ганчар прызнаў, што ў той альбо іншай форме ўжо падвергліся рэпрэсіям больш за тысячу членаў выбарчых камісій. Па кожным такім выпадку Цэнтральнай альбо абласной камісіяй складаецца афіцыйны акт. Пасля заканчэння кампаніі гэтыя даныя будуць сістэматызаваныя, адзначыў старшыня Цэнтркама, з тым, каб "прадставіць юрыдычна бездакорныя доказы парушэняў заканадаўства з боку ўлад".

Віктар Ганчар яшчэ раз паведаміў, што Цэнтральная камісія не мае намеру адкрываць стацыянарныя выбарчыя ўчасткі, паколькі гэта "раўназначна таму, што з рагаткай кідацца на танк". Наша задача, адзначыў ён, складаецца ў правядзенні выбараў, а не ў правакаванні ўлады на сілавыя дзеянні.

**Юрый КУЗНЯЦОЎ, БелаПАН.**

## 45 працэнтаў грамадзян Беларусі, апытаных сацыёлагамі, ледзь "зводзяць канцы з канцамі"

У красавіку бягучага года Навукова-даследчым эканамічным інстытутам Міністэрства эканомікі Беларусі праведзена чарговае агульнанацыянальнае сацыялагічнае даследаванне, накіраванае на вывучэнне эканамічных умоў жыцця грамадзян. 1 200 прадстаўнікам розных сацыяльна-дэмаграфічных груп дарослага насельніцтва рэспублікі прапаноўвалася ацаніць перспектывы росту цэн, матэрыяльнага становішча і іншых бакоў свайго жыцця.

Як паведаміў БелаПАН загадчык сектара эканамічнай сацыялогіі інстытута Ігар Жалткоў, 84 працэнты апытаных у бліжэйшыя паўгода чакаюць далейшага росту цэн. Пры гэтым 30 працэнтаў з іх лічаць, што рост цэн будзе больш хуткі. Кожны другі рэспандэнт (49 працэнтаў) прагназуе гэткі ж тэмп, як зараз, 5 працэнтаў чакаюць больш павольнага росту цэн. 3 працэнты апытаных спадзяюцца на стабілізацыю цэн. На нязначнае зніжэнне цэн на працягу бліжэйшага паўгоддзя спадзяецца толькі 1 працэнт апытаных жыхароў Беларусі.

Астатнім (12 працэнтаў) было цяжка адказаць на пытанне. На прапанову ацаніць матэрыяльнае становішча сваіх сем'яў каля паловы (45 працэнтаў) рэспандэнтаў адзначылі, што ім "ледзь удаецца зводзіць канцы з канцамі", 7 працэнтаў паведамілі, што "залезлі ў даўгі", а 11 працэнтаў — "вымушаны выкарыстоўваць свае зберажэнні". Разам з тым 23 працэнтам рэспандэнтаў удаецца адкладваць "крыху", а 1 працэнту — "шмат" грошай. У астатніх апытаных (13 працэнтаў) адказ на гэтае пытанне выклікаў цяжкасці.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

## Украінскае інфармацыйнае агенцтва УНІАН паведамляе са спасылкай на саудаўскую газету аб тым, што вызваленчая армія Косава захапіла ў палон 20 расійскіх і беларускіх наёмнікаў

Украінскае інфармацыйнае агенцтва УНІАН паведаміла са спасылкай на саудаўскую газету "Аш-Шарк аль-Аусат", якая выдаецца ў Лондане, аб захопе Вызваленчай арміяй Косава ў палон 20-ці расійскіх і беларускіх наёмнікаў. Карэспандэнт газеты са сталіцы Албаніі Ціраны сцвярджае, што палонныя, сярод якіх ёсць і былыя афіцэры, перададзены камандаванню часцей НАТО, раскватараваных у гэтай краіне.

Каменціруючы дадзеную інфармацыю, начальнік прэс-службы Савета бяспекі Беларусі Фёдар Плотнікаў адзначыў, што Савет бяспекі не валодае звесткамі, якія б пацвярджалі факты ўдзелу беларускіх грамадзян у якасці наёмнікаў у баявых дзеяннях на тэрыторыі Югаславіі. Больш таго, падкрэсліў ён, пазіцыя кіраўніцтва беларускай дзяржавы накіраваная якраз на тое, каб не дапусціць падобных выпадкаў, і наогул, Беларусь выступае за выключэнне інстытута наёмніцтва з міжнароднай практыкі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## У Мінску адкрылася выстава польскай фатаграфіі і інсталяцыі "Блізка і далёка"

У Мінску адкрылася выстава польскай фатаграфіі і інсталяцыі "Блізка і далёка" Войцэха Пражмоўскага і Марыўша Германовіча, якая стала першым практычным вынікам супрацоўніцтва Цэнтра сучаснага мастацтва "Замак Уяздоўскі" ў Варшаве, Польскага інстытута і Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску.

Выстава, якая будзе экспанавацца да 20 мая, пазнаёміць наведвальнікаў з рознымі тэндэнцыямі ў сучасным творчым працэсе фотамастакоў суседняй дзяржавы. Ідэя арганізацыі ў Мінску падобнай выставы канчаткова аформілася летась пасля наведвання Беларусі Марыўшам Германовічам, які наведаў месцы, дзе некалі жылі ягоныя продкі.

Сам М.Германовіч нарадзіўся ў 1950 годзе, скончыў Дзяржаўную вышэйшую школу кіно, тэатра і тэлебачання ў Лодзі, з 1982 года жыве ў Францыі. З'яўляецца ўдзельнікам шматлікіх выстаў, што праходзілі ў Польшчы і за яе межамі. Аўтар цыклу твораў "Задарожжа", створанага ў выніку леташняга падарожжа па Беларусі.

Войцэх Пражмоўскі нарадзіўся ў 1949 годзе. Фатаграфіяй займаецца з 1969 года, жыве ў Чэнстахове, актыўна выстаўляўся ў Польшчы і за мяжой. Аўтар серыі "Візіт у музей", цыклу "Антычны склад" і іншых. Важнай часткай яго творчасці сталі фотааб'екты — сімвалы мінулага. Працы абодвух аўтараў захоўваюцца ў шматлікіх публічных і прыватных калекцыях. Іх аб'ядноўвае цікавасць да мінулага, да таго, што "паступова сцірае няўмольны бег часу".

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Заходнія інвестары патрабуюць ад урада Беларусі і кампаніі "Слаўнафта" гарантый для сваіх укладаў і праект рэканструкцыі Мазырскага НПЗ

Кансорцыум заходніх фірм, якія распрацавалі сістэму фінансавання рэканструкцыі Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода з прыцягненнем замежных банкаў і страхавых таварыстваў, патрабуе гарантый для сваіх інвестыцый.

Для завяршаючага этапу рэканструкцыі Мазырскага НПЗ, які належыць кампаніі "Слаўнафта", прадугледжваецца прыцягнуць каля 100 млн. долараў ЗША. Падчас перамоў, якія аднавіліся пасля 10-месячнага перапынку, заходнія партнёры настойваюць на гарантыях сваіх інвестыцый не толькі з боку ўрада Беларусі, але і з боку самой "Слаўнафты". Мяркуецца, што ўжо ў самы бліжэйшы час канкрэтныя дэталі праекта стануць прадметам абмеркавання на сустрэчы прадстаўнікоў "Слаўнафты" і Кансорцыума заходніх фірм.

**Максім ЦІТОЎ.**

**Из штаб-квартиры НАТО**

## "Мы будем это делать, пока сербский президент не выполнит требования мирового сообщества"

4 мая 1999 года Александр Силич побывал на пресс-конференции в штаб-квартире НАТО. Вели ее Джеми Ши, политический докладчик НАТО, генерал Вальтер Йертс (немецкие военно-воздушные силы), военный докладчик НАТО. Вот что они сказали.

**Джеми Ши:** "Наша тактика авиационных ударов работает. Мы не несем человеческих жертв, и, вместе с тем, боеспособность военной машины Милошевича уменьшается день ото дня".

В начале брифинга Джеми Ши рассказал о программе визита в НАТО Билла Клинтона 5 мая: встреча с Генеральным Секретарем Хавьером Солана, главнокомандующим Уэсли Кларком, а также с председателем военного комитета НАТО генералом Клауссом Науманом. Господин Ши также сообщил, что с 6 мая новый председатель военного комитета НАТО — адмирал Гуидо Вентурони (итальянские военно-морские силы).

**Джеми Ши:** "За прошедшие сутки НАТО концентрировал свои усилия на сербских вооруженных формированиях, нанося удары по частям сухопутных войск, участкам сербской милиции, военным гарнизонам и т.д.".

"Нам удалось уничтожить 40 стационарных военных объектов, среди которых крупный нефтеперерабатывающий завод в Нови Сад (Сербия), танки, БМП, ретрансляционные станции, склады боеприпасов, военные самолеты".

"Наша тактика авиационных ударов работает. Мы не несем человеческих жертв, и, вместе с тем, боеспособность военной машины Милошевича уменьшается день ото дня".

Господин Ши еще раз подтвердил нацеленность НАТО только на военные объекты, а также готовность немедленно прекратить бомбардировки в момент, когда Милошевич начнет выводить войска из Косово.

"Мы атакуем и будем атаковать командные центры, "мозги" военной машины Милошевича, где бы они не находились: в Белграде, спрятанные в лесах Сербии или в подземных бункерах, принадлежащих Милошевичу и членам его семьи. И будем это делать, пока сербский президент не выполнит требования мирового сообщества".

**Вальтер Йертс:** "Час назад в небе Косово произошел воздушный бой. Пилот НАТО успешно сбил самолет югославской армии".

Среди пораженных НАТО вооруженных формирований за последние сутки генерал Йертс назвал 125-ю моторизованную бригаду сербской армии в западном Косово, 233-ю бригаду в восточном Косово, большое количество военной техники, артиллерийских позиций, площадок для запуска ракет, командных постов, 2 радиолокационные установки, 3 самолета на аэродроме, из которых один — МИГ-29 и т.д.

Генерал Йертс также отметил повышенную активность сербской артиллерии за последние сутки.

"Все самолеты НАТО после выполнения боевой и гуманитарной задачи в целости и сохранности вернулись на аэродромы".

**Некоторые вопросы:**

"Возвращаясь к инциденту с взорванным автобусом, что продвинулось в расследовании этого случая?"

**Джеми Ши:** "Мы опросили всех пилотов, которые летают в этом районе, запросили данные разведки, видеоматериалы и можем уверенно заявить, что НАТО не имеет отношения к этому инциденту".

"Президент США Билл Клинтон заявил сегодня о возможной паузе в бомбардировках НАТО?"

**Джеми Ши:** "Ни о какой паузе речь не идет. Мы будем продолжать нашу миссию до тех пор, пока не увидим пыль на дорогах Косово от двигающихся по ним в сторону Сербии частей Югославской армии. И мы не стреляем в спину".

"Приведите данные о жертвах среди косовских албанцев?"

**Джеми Ши:** "На сегодняшний день у нас есть очевидные доказательства того, что более пяти миллионов косовских албанцев (90 % населения) изгнаны из своих домов.

С начала года расстреляно как минимум 4000 косовских албанцев.

Массовые расстрелы проводились как минимум в 65 городах и деревнях.

Массовые захоронения обнаружены в семи местах".

**Специально для "Народной воли" Александр СИЛИЧ, Хартия'97.**

Брюссель.

